Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

ВЫХОДЗІЦЬ 1-га і 15-га КОЖНАГА МЕСЯЦА

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская вул. 1 — 20 (Wilno, ul. Ostrobramska 1 — 20).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Выпіска: на год — 2 зал., на паўг. — 1 зал., на 3 м-цы — 50 гр.
Нумар конта паштовага разрахунку: 100

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

№ 5 (39) | Вільня, 1 сакавіка 1939 г. | Год IV

## НАРОД — НАЦЫЯ.

Гаворачы ў папярэднім нумары „Бел. Фронту“ аб павадырстве нацыі, мы адзначылі, што ў кожным народзе ёсьць інтэлігенцыя, якая стаіць на чале гэтага народу, кіруе ім і гэтым самым бярэ адказнасьць за яго долю. Такім парадкам *інтэлігенцыя ёсьць павадыром свайго народу або нацыі*. Цяпер мы хочам вырашыць іншае пытаньне: *што такое нацыя* і ці розьніцца паняцьце нацыі ад паняцьця народу?

Пытаньне, што такое нацыя, у сучаснасьці, калі вырашаюцца нацыянальныя праблемы і гаворыцца аб самаазначэньні народаў - нацыяў, мае сваё асаблівае значэньне. Да гэтага трэба яшчэ дадаць і тое, што само паняцьце „нацыі“ ці „народу“ ня мела дагэтуль сталай і сьціслай азначанай дэфініцыі. Адны ўважаюць за нацыю (народ) этнаграфічную масу, якая жыве на аднэй тэрыторыі і ўжывае аднэй мовы; другія ўважаюць за нацыю такую людзкую супольнасьць, якая ёсьць злучана аднэй воляй і аднымі мэтамі; іншыя за нацыю (народ) уважаюць дзяржаву, напрыклад, Ліга Народаў, ня ёсьць лігай нацыяў, але лігай дзяржаў). У беларускай мове словы „народ“, „нацыя“ ў вапошніх часох паміж сабою розьняцца: пад словам „народ“ разумеюць супольнасьць людзей, якіх паміж сабою не вяжа ніякая ідэя і ніякія мэты, а пад словам „нацыя“ разумеюць сувязь людзей сьведамых, якіх лучыць ідэя дабра ўсяго народу або нацыі.

Дык што такое нацыя?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, мы разгледзім тыя элемэнты, з якіх складаецца народ або нацыя.

Першым элемэнтам ёсьць *элемэнт фізычны*. Кожны народ мае свой арыгінальны фізычны тып, якім ён розьніцца ад іншага народу. Даволі глянуць, напрыклад, на беларуса і на жыда, каб спасьцерагчы паміж імі вялікую розьніцу ў іх фізычным складзе, у іх вонкавым выглядзе. Гэтая розьніца пакажацца яшчэ большай пры параўнаньні людзей двух болей далёкіх расаў, напрыклад, белай і чорнай. Значыць, ужо ў самым чалавеку, у яго фізычным складзе ёсьць элементы, якія яго розьняць ад іншых людзей. Паміж людзьмі аднэй расы (напр. белай), мы гэтакіх вялікіх розьніц не спасьцерагаем, але і тут вучоныя антраполёгі пры помачы мераньня галавы (чэрапу, сківіцаў і г. д.) даходзяць да пракананьня аб існаваньні некаторых розьніц паміж пасобнымі народамі. У даўнейшых часох адно паходжаньне мела аграмаднае значэньне, бо на падставе гэтага паходжаньня тварыўся *род*, які быў папярэднікам сяньняшняга *народу*. Так як даўней род, так цяпер народ, складаецца пераважна з людзей, маючых аднолькавыя фізычныя прыметы, адно паходжаньне, як гэта кажуць, адну кроў.

Другім элемэнтам нацыі ёсьць *псыхічны* (духовы) *элемэнт*. Да гэтага элементу належаць: мова, звычаі, абычаі і народны характар. Кажуць, што мова народу ёсьць вытварам фізычных і псыхічных асаблівасьцяў данага народу, а ягоны характар — вытварам клімату. Усім ведама, што характар паўднёвых краёў іншы, чым характар паўночных. Да псыхічнага элементу залічаюць яшчэ народную культуру, як песьні, казкі, прыказкі, і нагул народны эпос.

Трэцім элемэнтам ёсьць *сьведамасьць і воля* людзей, якія твораць нацыю. Тады калі два першыя элементы (фізычны і псыхічны) твораць *народ*, дык трэці элемэнт, злучаны з двама першымі, творыць *нацыю* ў поўным гэтага слова значэньні. Да паняцьця нацыі мала аднаго фізычнага элементу, аднэй крыві; мала також і псыхічнага элемэнту, аднэй мовы або культуры; мала аднэй супольнай тэрыторыі ці гістарычнай мінуўшчыны, але трэба аднэй сьведамасьці і аднэй волі. *Сьведамасьць і воля на падставе фізычнага і псыхічнага элемэнту фармуюць адну нацыю*. У такім выпадку гэтыя адзінкі *разумеюць* сваю супольнасьць з іншымі, ім падобнымі, адзінкамі, і *хочуць* жыць, працаваць, змагацца за лепшую долю. Прыгэтым яны хочуць усё гэта рабіць *разам*, бо ўважаюць, што пры супольнай мове, звычаях, абычаях і нацыянальным характары ім гэта будзе найлягчэй і найкарысьней.

З вышэйсказанага відаць, што нацыя — гэта ня толькі сужыцьцё людзей на аднэй тэрыторыі, гэта ня толькі гаварэньне аднэй мовай, але гэта *вялікае супрацоўніцтва адзінак для агульнага дабра*. Значыць, у паняцьці нацыі ляжыць яшчэ і супрацоўніцтва або *каапэратывізм*, аб катарым мы ўжо нараз пісалі. Адна зямля, адна кроў, адна мова, адзін нац. характар — гэта ўсё важкія элемэнты, але яны толькі ёсьць складовымі часткамі дзеля тварэньня нацыі, ёсьць якбы целам яе, але *сілаю нацыі ёсьць сьведамасьць і воля*, а вытварам гэтай сьведамасьці і волі ёсьць супрацоўніцтва або каапэратывізм. Супрацоўніцтва гэта найвыразьней выяўляецца тады, калі сьведамая нацыя ідзе да пэўных азначаных мэтаў.

Цяпер, на аснове вышэйсказанага мы можам вырашыць пытаньне аб розьніцы паміж „народам“ і „нацыяй“. Народ — гэта этнаграфічная маса, якая мае два першыя элементы (фізычны і псыхічны), але якой не стае трэцяга (сьведамасьці і волі), а нацыя — гэта сьведамы народны арганізм, які ведае, хто ён, куды ён ідзе і чаго хоча. Каб нейкі народ мог быць названы нацыяй, не канечне трэба каб *увесь* ён быў сьведамы, хваціць, каб сьведамасьць была ў ім пашырана. У цэлай Эўропе мы хіба ня знойдзем народу, які-б выяўляў на ўсе сто працэнтаў і сьведамасьць і волю. Вялікая часьць народу ідзе звычайна за сваей інтэлігенцыяй, якая лепш за народныя масы знае палажэньне сваей нацыі і лепш ар'ентуецца ў палітычных і грамадзкіх справах. Ясна, што для нацыі найкарысьней, каб гэтакай інтэлігенцыі, гэта значыць, сьведамых і думаючых адзінак, было як найболей, дзеля гэтага беларусы павінны імкнуцца да таго, каб сьведамасьць і воля абхапілі як найшырэйшыя кругі думаючых пабеларуску адзінак, як у горадзе так і на сяле, а за імі і народныя масы. Пры сьведамасьці народ і нацыя — гэта адно.

## Сусьветная мабілізацыя сіл.

Трэба сказаць шчыра і адкрыта: перажываем сусьветную мабілізацыю сіл, якой у гісторыі чалавецтва яшчэ ня было. Мабілізацыю праводзяць дзьве магутныя восі, або лепш кажучы, два трыкутнікі: з аднаго боку трыкутнік Бэрлін—Рым — Токіё, а з другога боку — Лёндын—Парыж—Вашынгтон. Падобная мабілізацыя сіл адбывалася ў часе Вялікай вайны, з тэй аднак розьніцай, што тады проціў сябе стаялі няроўныя сілы: з аднаго боку тэхнічна ўзброеная Нямеччына, якой памагалі слабыя дзяржавы, як Аўстрыя, Баўгарыя і Турцыя, а з другога боку Англія, Францыя, Італія, Злуч. Штаты, Японія, Расея, словам, увесь сьвет. Нямеччына тады была падобная да вялікай, абложанай з усіх бакоў, крэпасьці. Ясна, што абложаная крэпасьць, не сягоньня дык заўтра, а паддацца мусіць. Цяпер палажэньне прадстаўляецца інакш: сьвет падзяліўся на два бадай роўныя блёкі, роўныя як з пункту гледжаньня чалавечага матар'ялу так і з пункту гледжаньня тэхнікі. Аднэй толькі рэчай дэмакратычны блёк стаіць вышэй за фашыстоўскі, гэта сыравінай, патрэбнай дзеля вядзеньня даўгой вайны (хлеб, нафта, жалеза, медзь і г. д.). Апроч гэтых трыкутнікаў ёсьць яшчэ адна сіла — Саветы. Яны дзяржацца вельмі загадкова. Аслабленыя нутраным змаганьнем і камуністычнымі экспэрымэнтамі, яны не бяруць удзелу ў палітычным жыцьці сьвету (усе эўрапэйскія справы вырашаліся ў 1938 г. без удзелу, а нават бяз згоды Саветаў), аднак у вапошніх месяцах Саветы выплываюць на ўзьверх. З імі падпісвае гандлёвы дагавор Італія, за ёй Польшч, мае падпісаць Нямеччына, Англія і іншыя дзяржавы; цэлай сэнсацыяй у гэтых дагаворах было тое, што Саветы абяцаліся прадаваць нафту і іншую сыравіну за фабрычныя вырабы (у Саветах паміма дзьвух пяцігодак усё яшчэ не хватае фабрыкатаў), а Італія забавязалася аддаць Саветам новазбудаваны крэйсэр, заказаны яшчэ ў той час, калі Італія і Саветы паміж сабою дружылі. Гэты крэйсэр мае быць найболей быстрым караблём на сьвеце (робіць 81 клм. на гадзіну). Гэтак сама Нямеччына за савецкую сыравіну мае плаціць ня толькі фабрыкатамі, але і аружжам!

Каб зразумець усю гэтую ігру, трэба ўзяць пад увагу тое, што ані Італія, ані Нямеччына ня маюць столькі валюты, каб заплаціць Саветам за сыравіну, а Саветы згаджаюцца прадаць сваю сыравіну толькі за патрэбныя для сябе прадукты, або валюту. Апроч гэтага ёсьць падазрэньне, што Саветы прадаюць фашыстам нафту і іншую сыравіну з тэй утоенай думкай, каб выклікаць агульную вайну, з якой уканцы скарысталіб не два блёкі, а Саветы! Як там ёсьць, згадаць трудна, адно толькі відавочнае, што Саветы будуць памагаць як аднаму блёку так і другому: маўляў, бецеся, а калі аслабееце, дык тады ўмяшаюся і я...

# На беларускім грунце

### З ЖЫЦЬЦЯ НАШАЙ ВЁСКІ.

Прыглядаючыся далей да жыцьця нашай вёскі, мусім адзначыць, што яно ўсьцяж ідзе пад знакам чаканьня вялікіх падзеяў. У гэтым чаканьні зыходзіць час. Людзі проста зьнемагліся ад гэтага чаканьня — і ўсё чакаюць. Першым пытаньнем, якое пачуем ад нашых вяскоўцаў будзе: Што там Гітлер? Як Сталін? Куды Муссоліні? Такое бязупыннае чаканьне адбірае ад людзей энэргію, зьнеахвочвае да працы, некарысна адбіваецца на грамадзкай і нацыянальнай актыўнасьці — і затым ёсьць шкоднае. Такім людзям трэба было-б часьцей прыпамінаць сваю беларускую прыказку: „не ўважай на ўраджай, а жыта сей“. Яны-ж наадварот, бачачы, што няма ўраджаю, перастаюць сеяць...

А тымчасам іншыя, ня гледзячы „на ўраджай“, сеюць — і то заўзята сеюць.

Мы тут хочам зьвярнуць увагу на „ўсходнюю сяўбу“, якая моцна пашыраецца на беларускіх сёлах у дваякай форме: у форме расейшчыны і ў форме камуністычнай акцыі. Расейшчыну шыраць расейскія газэты, расейскае духавенства і астаткі расейскай эміграцыі, а камуністычную акцыю — сябры Кам. Партыі Зах. Беларусі. На правінцыі здараюцца часта арышты за камунізм і працэсы, аб каторых мы ўжо пісалі. Цікава прасьледзіць цяперашнюю тактыку камуністаў. Дагэтуль яны назначалі на становішчы старшынь ці сэкратароў у сваіх арганізацыях людзей малаграматных, ня маючых вялікага значэньня ў народзе, нават ня маючых паняцьця аб палітычным жыцьці. Яны часта ня мелі ані пашаны ані даверу ў сваей-жа вёсцы. Спачатку падазравалі, што ў гэтакай рабоце ёсьць або правакацыя або нейкая асаблівая тактыка. (Праўду кажучы, розная правакацыя мае шмат пажывы пасярод нашых вяскоўцаў — і многа ахвяр). Але потым выявілася, што гэта ня была правакацыя, але тактыка, якая зьмяшчалася ў тым, каб ашчаджаць людзей выдатных, палітычна выробленых, а пхаць на „чорную работу“ тых, з якіх і так мала карысьці. Такія калі і ў турму пападуць, дык малая страта, а нават можа быць карысьць, бо ў турме яны вырабяцца і стануць палітычна граматнымі. А пры гэтым будзе і працэс, які пацьвердзіць, што „работа“ ідзе і дасьць аказію палітрукам ня толькі пахваліцца работай, але і зажадаць нагароды за працу... Апроч гэтага, ашчаджаючы дзеячоў, не парывалася цягласьці акцыі, ня трэба было пачынаць усяго нанова, але была падтрымлівана сыстэматычнасьць работы. У апошнім часе, як паведамляе „Слово“ (19.II), камуністычныя вярхі яшчэ далей пайшлі ў кірунку ашчаджаньня чалавечага матар'ялу. Цэнтральны Камітэт КПЗБ выдаў быццам цыркуляр да падуладных органаў, каб на адказныя месцы высоўваць не мужчын, а **жанчын**, а гэта з тэй прычыны, што выступленьне жанчын часта паралізуе дзейнасьць уладаў і ў прыпадку арышту і працэсу адказнасьць жанчын ёсьць меншая... Калі гэта праўда, дык трэба спадзявацца, што ў будучай сваей рабоце камуністы будуць карыстацца жанчынамі, якія будуць і старшынямі і сэкратарамі — і ў рэзультаце заменяць мужчын на працэсах... Трэба прызнаць, што тактыка даволі спрытная. Рэзультаты яе скора выявяцца.

### ВЫБАРЫ Ў САМАЎРАДЫ.

Выбары ў грамадзкія і гмінныя рады ўжо адбыліся ў цэлым радзе паветаў. На гэтыя выбары польская прэса глядзіць розна: адны кажуць, што выбары былі бяз выбараў („Слово“), а другія — што выбары адбыліся без галасаваньня („Глос Народовы“). Наагул пашырана ў некаторых кругох праканаьне, што з выбарамі ня ўсё ў парадку. Аб адносінах адм. уладаў да самаўрадавых выбараў хацеў у сваім часе гаварыць ген. Жэлігоўскі ў бюджэтнай камісіі сойму, але яму не далі голасу. Пасьля гэтага гаварыў ён з прэм'ерам Складкоўскім. Аб рэзультатах гэтай гутаркі нічога ня чуваць.

У справе выбараў „Глос Нар.“ (18.II) піша, што адны артыкулы выбарчай ардынацыі даволі добрыя, як напрыклад, прынцып роўнасьці, агульнасьці, тайнасьці і беспасрэднасьці (арт. 1-шы); добрае ёсьць правіла, што кожныя 10 чалавек могуць выстаўляць лісту кандыдатаў, але іншыя артыкулы робяць выбары труднымі. Напрыклад, паводле артыкулу 6-га распараджэньне аб выбарах стараста падае толькі да ведама гміны, а не абвяшчае яго публічна, а ўжо гміна абвяшчае праз солтысаў. На падставе арт. 15-га на падгатову да выбараў даецца толькі 18 дзён, а гэтага мала, каб зарганізаваць і правесьці выбары. Арт. 40-вы кажа, што калі ў выбарчым вокругу будзе паданы толькі адзін сьпісак, дык галасаваньне не адбываецца, а праходзяць кандыдаты з таго сьпіску. Усё гэта добра, кажа „Гл. Нар.“, але бывае так, што сябры выбарчай камісіі нават без парушэньня выбарчай ардынацыі патрапяць так зрабіць, што другі сьпісак ня будзе дапушчаны, — і такім парадкам зьяўляецца толькі адзін сьпісак, які быў уложаны пры помачы солтысаў. Аб тым, што солтысы зьбіраюць подпісы на адзіным сьпіску, агульна ведама і аб гэтым маглі-б пасьведчыць людзі з кожнай бадай грамады. Зьбіраючы подпісы, солтысы часта выступаюць проціў выстаўляючых другі сьпісак і перашкаджаюць ў яго паданьні. Гэтак піша „Глос Нар.“

„Слово“ (18.II) прыносіць вестку аб стабілізацыі войтаў. „Слово“ кажа, што ў цэлым радзе мясцовасьцяў, дзе рэзультат выбараў выпаў не на карысьць урадуючых войтаў, войты падаваліся ў дымісыю, дымісыі былі прыняты старой радай і зараз тыя самыя войты былі выбіраны на далейшыя 5 гадоў... „Слово“ піша, што грамадзяне гэтых гмін пратэстуюць проціў гэтакай стабілізацыі войтаў і зварочваюцца ў гэтай справе проста да прэм'ера Складкоўскага.

### З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛ. СТУДЭНТАЎ.

26. II. сёл. адбыўся агульны гадавы сход Беларускага Студ. Саюзу пры УСБ у Вільні. Сход адчыніў, вітаючы прысутнага куратара праф. др. Э. Кошмідэра, старшыня ўступаючага ўраду А. Дасюкевіч. Пасьля адбыліся выбары старшыні Агульнага Сходу, ў рэзультаце якіх на старшыню здэцыдаванай большасьцю галасоў быў выбраны абс. мэд. М. Шчорс. Із справаздачаў аб агульна арганізацыйнай дзейнасьці — А. Дасюкевіча, касавай — В. Жукоўскай і бібліятэкара — Ч. Найдзюка было сьцьверджана, што арганізацыя, ня гледзячы на шматлікія перашкоды вонкавага характару, на матэр'яльную нястачу, ахвярна і выдатна працавала на ніве адраджэньня Беларускага Народу. За справаздаўчы час адбыўся цэлы рад паважных і на высокім узроўні стаячых імпрэзаў нацыянальна-грамадзкага характару, як напр. некалькі канцэртаў беларускай песьні з удзелам слаўнага нашага сьпевака М. Забэйды-Суміцкага, акадэміяў, рэфэратаў, дыскусыйных вечароў і інш. Бяручы пад увагу гэты колькасны і якасны рэзультат працы, Агульны Сход прызнаў, што ўступаючы ўрад стаяў на вышыні свайго заданьня і пасьля кароткай дыскусіі прызнаў яму абсолютор'юм з падзякай.

Пасьля адбыліся выбары новых уладаў Б.С.С. — у выніку якіх на старшыню выбраны студ. У. Кароль, а сябрамі Ураду: К. Шэшка, В. Люсьцібэр і Ч. Найдзюк. У Рэв. камісію выбраны: старш. М. Смаршчок, Л. Марцінчык і В. Ермалковіч — сябры.

Із пастановаў і пажаданьняў, якія былі вынесены Агульным Сходам Б. С. С., на асаблівую ўвагу заслугоўвае **пастанова** ў справе ўстрыманьня ад дня Агульн. Сходу ад ужываньня алькагольных напіткаў сябрамі Б. С. С. і забавязаньне да пашыраньня антыалькагольнай акцыі на нашай вёсцы і да змаганьня з распаўсюджаным на нашых землях алькаголізмам. Пастаноўлена апрача гэтага ў абароне слушных нацыянальных інтарэсаў Бел. Народу запратэставаць перад Украінскай Парлямэнтарнай Рэпрэзэнтацыяй супроць уключэньня ёю ў межы этнаграфічных украінскіх зямель 5 беларускіх паветаў Палескага і аднаго Беластоцкага ваяводзтваў, насельніцтва якіх у большасьці здэкляравана лічыць сябе Беларусамі і з прастораў якіх паходзіць вялікая часьць сяброў Б. С. С.

Між іншым была вынесена пастанова, паводле якой бел. студэнцтва лічыць за свой грамадзкі абавязак актыўна прычыніцца да ўзбагачэньня Бел. Музэю ім. Ів. Луцкевіча і да палепшаньня даволі цяжкога яго матар'яльнага палажэньня.

Наагул трэба падчыркнуць факт зразуменьня беларускім маладым пакаленьнем перажываных сяньня хвілінаў і патрэбы консолідацыі на нацыянальна-беларускай плошчы.

### З БЕЛАРУСКАГА НАВ. Т-ВА.

12 лютага с. г. адбыўся гадавы агульны сход сяброў Бел. Нав. Т-ва. На парадку дня было: справаздача ўраду і рэвіз. камісіі за мінулы год, дыскусія над справаздачамі выбары новага ўраду. Із справаздачаў выясьнілася, што дзейнасьць Т-ва ў мінулым годзе была даволі ажыўленай. У сэкцыях адбылося шмат рэфэратаў, музэй ад-

(Далей на адвароце).

# Аб расейскай эміграцыі.

Апошнія чуткі аб нямецкай экспансыі на ўсход моцна ўскалыхнулі расейскую эміграцыю, раскіданую па ўсіх дзяржавах Эўропы. У вялікшых эміграцыйных асяродзьдзях, як у Францыі, Югаславіі, Баўгарыі, Чэхаславаччыне, Рызе заварушыліся павадыры эміграцыі і ажывілі яе соннае жыцьцё. Разважаецца пытаньне — як аднесьціся да магчымага паходу немцаў на СССР і разьбіцьця апошняга на асобныя дзяржавы. Бараніць СССР ці не? З аднаго боку ўся эміграцыя ад сацыялістых да манархістых ненавідзіць камуністычнага ладу ў Савецкай Расеі і ахвотна бачыла-б яго ліквідацыю, але з другога боку эміграцыя ведае, што ў прыпадку вайны з немцамі толькі бальшавікі будуць бараніць цэласьці СССР, а тым самым і будучай Расеі. У гэткіх варунках дапамога немцам у іхнім магчымым паходзе на Саветы зьяўлялася-б фактычна здрадай бацькаўшчыны. Ізноў-жа змаганьне па старане бальшавікоў ня суліць нічога добрага.

Гэтае, запраўды бязвыхаднае, палажэньне выклікала падзел у эміграцкіх асяродках. Частка эміграцыі на чале з гэн. Денікінам трымаецца даволі няяснага клічу: „ані з бальшавікамі, ані з немцамі, але за Расею“. Трэба тут дадаць, што ген. Денікін ахвотна бачыўбы ў Расеі паварот манархіі і паноў. Не прызнае ён ніякіх беларўсаў ці ўкраінцаў, лічучы іх толькі плямёнамі „адзінага расейскага народу“. Затое сярод казацкае эміграцыі наглядаецца іншае зьявішча. Выбраныя адначасна два атаманы казацкага войска, Папоў і Граббэ гэта — данскія сэпаратыстыя з тэй розьніцай, што Папоў гатоўбы аддзяліцца з Донам ад Расеі назаўсёды, а Граббэ толькі часова, каб умацаваўшыся на Доне, скінуць бальшавікоў у Расеі, з якой потым казакі маглі-б дабравольна злучыцца на аўтаномных асновах. Прыймаючы пад увагу, што казакі твораць найбольш сцэмэнтаваную эміграцкую масу — гэты кірунак эміграцкае думкі трэба лічыць паважным. Напасьледак ёсць яшчэ два кірункі, з якіх адзін рэпрэзэнтаваны г. зв. „младороссамі“ (расейскімі фашыстамі) гатоў змагацца па старане бальшавікоў, а другі, названы „паражэнскім“ гатоў не перешкаджаць немцам у змаганьні з бальшавікамі.

Як можна дадумвацца, гэты падзел выкліканы галоўна тым, што ў прыпадку вайны з немцамі, апошнія могуць прычыніцца да развалу Расеі. Каліб гэтага страху ня было, ўсе эміграпты ахвотна-б далучыліся да кожнага, хто-б пайшоў на бальшавікоў.

Парушаныя тут справы шырока дыскутуюцца ў расейскай эміграцкай прэсе. З гэтай нагоды эміграцыя прымушана была выказаць і сваё становішча адносна беларускае, украінскае, казацкае праблемаў. Наагул пераважае думка, што беларусы, украінцы і маскоўцы — гэта толькі тры „галіны“ аднаго расейскага народу. Ніякіх „сэпаратыстычных“ імкненьняў гэтых народаў не прызнаецца. А каліб „не дай Бог“, гэтым народам надарылася магчымасьць вызваленьня, дык, паводле эміграцыі, няхай лепш астанецца так, як ёсьць цяпер. З гэтай прычыны пасьля апошняй прамовы Гітлера, з якой можа выглядаць, што немцы кіруюцца на Захад, у расейскай прэсе наглядаецца трудна хаваная радасьць. Няхай лепш будуць бальшавікі, чымся Беларусь, Украіна і г. д.

Гаворачы аб гэтых падзеях сярод расейскіх эміграцкіх кругоў, ня трэба, зразумела, пераацэніваць значэньня гэтай эміграцыі. Цяпер яна прадстаўляе мізэрную сілу, хоць розныя беларускія вырадкі, як прыкладам браты Саланевічы, уцёкшыя ня гэтак даўно з Саветаў, з усіх сіл стараюцца яе падтрымаць. Эміграцыя гэта струхлела і здэнацыяналізавалася. Калі йдзе аб Польшчу, дык тут трэба падчыркнуць адзін мамэнт, з помаччу каторага эміграпты хочуць ажывіць і папоўніць свае рады. Лічучы, паіменна, беларусаў і украінцаў тымі між расейцамі, яны хочуць паказаць, што маюць глыбейшыя карані ў народзе, або, як яны кажуць „простонародіи“. Гэта „простонародіе“ мае быць крыніцай, з якой расейская эміграцыя спадзяецца чэрпаць для сябе новыя ажыўчыя сокі і з помаччу яе зьвязацца з тутэйшай зямлёй. У часе апошніх выбараў у Сойм на бачынах віленскага „Русскага Слова“ можна было чытаць рожавыя разважаньні аб узросьце расейскасьці ў Польшчы, бо-ж на аднога расейскага пасла ў ваднэй Дзісьненшчыне з Браслаўшчынай выпала аж... 75.000 галасоў! Забыўшыся на гэты раз аб „цудах“, „Русское Слово“ з гэтай нагоды „лікавала“, бо „простонародіе“ выцягнула... Ня трэба хіба дадаваць, што як і за царскіх часоў, эміграцыя для гэтага „простонародія“ мае толькі два сродкі на здаваленьне яго патрэб: русыфікацыю Царквы і манапольку. Гэтыя сродкі памагалі пры „царе-батюшке“, можа памогуць і цяпер... У гэтых двух спосабах і зьмяшчаецца ўся праграма расейскай эміграцыі адносна „інородцаў“.

М. Ш.

